Гродна
№ 18 (429),
4 кастрычніка 2015

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

www.slowo.grodnensis.by




# НА СВЯТОЙ ЗЯМЛІ

## АСВЯЦІЛІ ТАБЛІЦЫ З НАДПІСАМІ ПА-БЕЛАРУСКУ

26 верасня ў горадзе Эйн-Карэм на Святой Зямлі, радзіме св. Яна Хрысціцеля, прайшла ўрачыстая святая Імша для беларускіх пілігрымаў, падчас якой адбылося асвячэнне памятных табліц “Magnificat” і “Benedictus” з надпісамі на беларускай мове.

працяг на с. 4



Падчас асвячэння памятных табліц

## ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗЬ БЛАСЛАВІЛІ НА НОВЫ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД



Кс. бп Юзаф Станеўскі раздзяляў з вернікамі дарогу да Маці Божай

Традыцыйна ў трэцюю нядзелю верасня адбываецца пешая пілігрымка дзяцей і моладзі, настаўнікаў і выхавацеляў, выкладчыкаў і катэхетаў з Гродна і ваколіц у санктуарый Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку Надзеі ў Капцёўцы. Сёлетняя пілігрымка прайшла пад дэвізам: “З Марыяй у новы навучальны год”.

У пілігрымцы і ўрачыстасцях у Капцёўцы прынялі ўдзел шматлікія пілігрымы, пераважна дзеці і моладзь.

Перад распачаццем шляху пілігрымы ўдзельнічалі ў святой Імшы ў гродзенскім касцёле Маці Божай Анёльскай.

працяг на с. 5

## ДА МАЦІ БОЖАЙ З РУЖАНЦАМ У РУЦЭ



Ружанец – гэта духоўная зброя ў барацьбе са злом

Месяц кастрычнік вельмі часта асацыюецца ў нас з залатой восенню, калі ўсё навокал поўніцца каляровымі пейзажамі, якія мастакі ахвотна пераносяць на палатно, ствараючы прыгожыя карціны. Аднак, для веруючага чалавека кастрычнік – гэта не толькі пара, якая заварожвае восеньскімі матывамі, але перш за ўсё месяц, што нагадвае аб Ружанцы. Ён прыпамінае нам аб прыгожай і простай малітве, якая яднае людзей усіх кантынентаў – у касцёлах, каплічках, шпіталях, дамах, сем’ях.

працяг на с. 3

### Каляндар падзей

*5 кастрычніка*
*ўспамін св. Фаўстыны Кавальскай.*

*7 кастрычніка*
*ўспамін НПМ Ружанцовай.*

*15 кастрычніка*
*ўспамін св. Тэрэзы Авільскай.*

*18 кастрычніка*
*Сусветны місійны дзень. Заахвочваем да малітвы, а таксама духоўных і матэрыяльных ахвяраванняў у інтэнцыі місій.*

### Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

*“Голас Евангелля”*
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.*
***Кожную нядзелю ў 8.00*** *запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*

***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

***Рэдакцыя газеты “Слова Жыцця” шукае спецыяліста з веданнем польскай і беларускай моў на пасаду перакладчыка. Звяртацца па тэлефоне: (8029) 637-07-17.***

### Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

**Чым для Вас з’яўляецца сям’я?**

- найменшай ячэйкай грамадства
- хатнім Касцёлам
- вялікай падтрымкай
- месцам, дзе я вучуся ўзаемнай любові
- дапамогай у цяжкія моманты
- школай жыцця
- цяжка сказаць

выкажыся

**“Няхай Бог адорыць нас дарам аднoўленай блізасці паміж сям’ёй і Касцёлам” – папа Францішак**




### XXVII НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ
**Мк 10, 2–16**

Падышлі фарысеі да Езуса і, выпрабоўваючы Яго, спыталіся, ці дазволена мужу разводзіцца з жонкаю? Ён сказаў ім у адказ: "Што наказаў вам Майсей?" Яны сказалі: "Майсей дазволіў пісаць разводны ліст і разводзіцца". А Езус сказаў ім у адказ: "Дзеля жорсткасці сэрца вашага ён напісаў вам гэтую запаведзь, бо на пачатку стварэння Бог стварыў іх мужчынам і жанчынай. Таму пакіне мужчына бацьку свайго і маці сваю і злучыцца са сваёй жонкай, і будуць двое адным целам. Так што яны ўжо не двое, але адно цела. Таму тое, што Бог злучыў, чалавек няхай не разлучае".

У доме вучні зноў спыталіся ў Яго пра гэта. Ён сказаў ім: "Хто разводзіцца з жонкаю сваёю і ажэніцца з іншай, той чужаложыць супраць яе. І калі жонка разводзіцца з мужам сваім і выйдзе замуж за іншага, чужаложыць".

І прыносілі да Езуса дзяцей, каб Ён дакрануўся да іх. Але вучні забаранялі ім. Убачыўшы гэта, Езус абурыўся і сказаў ім: "Дазвольце дзецям прыходзіць да Мяне, не забараняйце ім, бо такім належыць Валадарства Божае. Сапраўды кажу вам: хто не прыме Валадарства Божага, як дзіця, той не ўвойдзе ў яго". І, абняўшы іх, благаславіў, ускладаючы на іх рукі.

### ПРАВА ДЗІЦЯЦІ НА ЛЮБОЎ

Часы змяніліся, але чалавек застаўся такі самы: са сваімі слабасцямі, планамі на будучыню, якія не супадаюць з планамі Бога. Ігнараванне Божых законаў накладаецца на абсалютную адсутнасць адказнасці за іншага чалавека. Сужэнства, якое бачыцца Створцу як адзіная, непаўторная еднасць мужчыны і жанчыны, замяняецца сёння адносінамі, дзе ў разлік бяруцца прыемнасць, падыход, дыктуемы выгадай, пошукам асабістага "я", а значыць, эгаізмам.

Гэта не выпадковасць, што адразу ж пасля дыскусіі аб неразрыўнасці сужэнства Евангеліст успомніў пра дзяцей. Гэта яны з'яўляюцца найбольшай радасцю не толькі бацькоў, але і Бога. Яны больш за ўсіх пакутуюць у выніку драм разбітых сямей.

### XXVIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мк 10, 17–30**

Калі Езус вырушыў у дарогу, падбег да Яго адзін чалавек, упаў перад Ім на калені і спытаўся ў Яго: "Настаўнік добры, што мне зрабіць, каб атрымаць у спадчыну жыццё вечнае?" Езус сказаў яму: "Чаму называеш Мяне добрым? Ніхто не ёсць добрым, толькі адзін Бог. Ты ведаеш запаведзі: не распуснічай, не забівай, не крадзі, не сведчы ілжыва, не ашуквай, шануй бацьку свайго і маці". А той сказаў Яму ў адказ: "Настаўнік, усё гэта я захоўваў з маладосці маёй". Езус, паглядзеўшы на яго, умілаваў яго і сказаў: "Табе нестае аднаго: ідзі, прадай усё, што маеш, і раздай убогім, і будзеш мець скарб у небе. Тады прыходзь і ідзі за Мною". А ён засмуціўся ад гэтых слоў і адышоў маркотны, бо ў яго была вялікая маёмасць.

Езус паглядзеў навокал і сказаў сваім вучням: "Як цяжка будзе тым, хто мае багацце, увайсці ў Валадарства Божае!" Вучні ж дзівіліся словам Ягоным. Але Езус зноў сказаў ім у адказ: "Дзеці, як цяжка тым, хто спадзяецца на багацце, увайсці ў Валадарства Божае. Лягчэй вярблюду прайсці праз вушка іголкі, чым багатаму ўвайсці ў Валадарства Божае". А яны яшчэ больш здзіўляліся і казалі адзін аднаму: "Хто ж можа збавіцца?" Езус, зірнуўшы на іх, сказаў: "У людзей гэта немагчыма, але не ў Бога; бо ў Бога ўсё магчыма".

### ПАЎНАТА ЖЫЦЦЯ Ў ВОЛЬНАСЦІ

Ні ў чым не будзе нястачы ў сапраўдных вучняў Езуса! Вольнасць – сапраўдная – не можа абмяжоўвацца станам валодання. У гэтым заключаецца евангельскі парадокс: чым менш ты маеш, тым больш ты вольны. Гэта зусім наадварот адносна правіл, што нам навязвае свет, які шчасце і пачуццё вольнасці ідэнтыфікуе з матэрыяльнымі магчымасцямі. Ці павінен хрысціянін быць пазбаўлены радасці валодання чымсьці? Нічога падобнага! Няхай здабывае і падпарадкоўвае сабе свет. Але няхай будзе пільным, каб выпадкова не стаць нявольнікам свету і яго правіл. І няхай не забываецца, што ён заўсёды будзе падвяргацца незразуменню, а нават пераследу.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# З ружанцам абараняць сям'ю

**СЛОВА РЭДАКТАРА**
*Кс. Павел Салабуда*



Ад 5 да 19 кастрычніка адбудзецца III Пазачарговая агульная сесія Сінода Біскупаў, якая будзе прысвечана сям'і ў кантэксце евангелізацыі. У гэтыя дні позіркі ўсіх каталікоў будуць асаблівым чынам скіраваны ў напрамку Ватыкана. Мы спадзяёмся і верым, што Святы Дух асвеціць сэрцы ўсіх сабраных на сінодзе, каб сваімі разважаннямі яны ахапілі шырокі спектр праблем, звязаных з функцыянаваннем сучаснай сям'і, асабліва ў кантэксце яе паклікання і місіі ў Касцёле і ў свеце. Варта таксама кожнаму з нас далучыцца да гэтай справы праз ружанцовую малітву ў інтэнцыі сем'яў, а таксама клопат пра добрае і згоднае з Евангеллем уласнае сямейнае жыццё ў нашых дамах. Варта ўзяць ружанец у рукі, каб кожнае "Вітай, Марыя" ахвяраваць за святасць нашых сем'яў.

Малады Касцёл у Беларусі павінен "паставіць" на развіццё сямей і іх духоўную апеку. Менавіта праз супрацоўніцтва сям'і з Касцёлам і дзяржавай мы паклапоцімся аб добрай будучыні нашага Касцёла і ўсёй краіны. Кветкай жыцця Касцёла могуць стаць сем'і, якія на першае месца ставяць хрысціянскія каштоўнасці, любоў да Бога і адзін да аднаго. Аб гэтым прыгадаў таксама папа Францішак падчас свайго візіту ў Філадэльфію: "Для Касцёла сям'я – гэта, перш за ўсё, не нагода для страхаў, а хутчэй радаснае пацвярджэнне Божага благаслаўлення для справы стварэння. Кожны дзень ва ўсім свеце Касцёл можа цешыцца Божым дарам такога мноства сем'яў, якія нават сярод цяжкіх выпрабаванняў застаюцца вернымі сваім абяцанням і захоўваюць веру!".

Жыццё сям'і напэўна будзе ўдаым і паблаславёным тады, калі яе члены паспрабуюць разам стаць на калені, каб памаліцца. У кастрычніку гэты просты ружанцовы жэст зробіць сямейнае жыццё больш шчаслівым, а сужэнцаў, бацькоў і дзяцей навучыць цешыцца жыццём. Сёння можна сустрэць усё больш сем'яў, якія спрабуюць дарушыць сваё жыццё Богу і не расчароўваюцца. Нягледзячы на розныя надзённыя цяжкасці, духоўны фундамент такіх сем'яў моцны і паблаславёны Богам. Вельмі добра сказаў Папа падчас св. Імшы на заканчэнне VIII Сусветнай сустрэчы сем'яў у Філадэльфіі 27 верасня бягучага года: "Кожны, хто хоча ўвесці ў гэты свет сям'ю, якая вучыць дзяцей натхняцца кожным жэстам, што імкнецца да перамогі над злом, сям'ю, якая паказвае, што Дух Святы жыве і дзейнічае, – атрымае нашу ўдзячнасць і наша прызнанне. Незалежна ад таго, якая гэта сям'я, народ, рэгіён ці рэлігійная прыналежнасць!".

**Біскупы, Касцёл, абараняйце сям'ю! Няхай кожны з нас з ружанцам у руцэ абараняе нашыя сем'і, хрысціянскія каштоўнасці, якія павінны быць упісаны ў сямейнае жыццё. Няхай па прыкладзе Святой Сям'і з Назарэта будуць асвечаны сем'і ў Беларусі, а праз сем'і таксама Касцёл.**

# Жырмуны

ДЭКАНАТ
## Радунь

***Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі***


*Знешні выгляд святыні*


*Галоўны алтар*

Вёска вядома з пачатку XV ст., калі яна з'яўлялася родавым маёнткам Бутрымаў. Потым уласнасць Кучукаў, з канца XV ст. – Мантоўтавічаў, з 1513 г. – князя Юрыя Радзівіла. На карце Т. Макоўскага 1613 г. Жырмуны пазначаны як мястэчка Лідскага павета. У XVII ст. знаходзіліся ва ўладанні Завішаў, з пачатку XVIII ст. – зноў перайшлі да Радзівілаў. У 1724 г. кароль Аўгуст II надаў мястэчку магдэбургскае права.

Касцёл тут быў заснаваны ў 1437 г. па фундацыі тагачаснага ўладальніка Жырмунаў пана Войцеха Кучука. У сярэдзіне XVI ст. пры касцёле дзейнічала альтарыя.

Новы драўляны касцёл быў пабудаваны ў 1624 г. на сродкі Яна Завішы, ваяводы віцебскага, і яго жонкі Ганны Трызнянкі. Касцёл быў кансэкраваны пад тытулам Найсвяцейшай Марыі Панны і ўпасажаны "з абавязкам утрымання арганіста, школкі, кантара і слуг касцёльных". Але святыня была знішчана падчас вайны 1654–1667 гг. Новы касцёл ў 1667–1673 гг. паўстаў дзякуючы намаганням кс. Мацея Шаркевіча на сродкі пана Алойзы Кунцэвіча. Менавіта ў гэты час тут з'явілася галоўная парафіяльная рэліквія – кроплі крыві Пана Езуса. 20 сакавіка 1667 г. жонка віцебскага кашталяна Завішы, Гальшка Тышкевіч, ахвяравала іх жырмунскаму касцёлу. А ёй, атрымаўшы іх ад Папы Урбана VIII, прывёз з Рыма яе брат віленскі біскуп Тышкевіч. У 1674 г. святыню кансэкраваў біскуп суфраган Мікалай Слупскі, у яго тагачаснай візіце адзначаецца цудатворны абраз Найсвяцейшай Панны Марыі, змешчаны ў алтары касцёла.

А ў 1788–1789 гг. князь Станіслаў Радзівіл разам са сваёй жонкай Каралінай з Пацеяў ахвяравалі сродкі на ўзвядзенне цяперашняга драўлянага храма ў класіцыстычным стылі. Пабудавалі касцёл на ранейшым месцы, у цэнтры мястэчка, паводле праекта архітэктара Яна Падчашынскага, які працаваў у жырмунскім маёнтку Радзівілаў. Касцёл быў кансэкраваны пад новым тытулам Адшукання Святога Крыжа. Пры касцёле дзейнічалі парафіяльная школа і шпіталь, якія фундавала лідская падстаросціна Гадзебская.

Касцёл уяўляе сабою трохнававую святыню з трансептам і трохграннай алтарнай часткай, арыентаванай на ўсход. Цікава, што сакрыстыя не дабудавана да прэзбітэрыя, а змешчана ў паўночным крыле трансепта. Касцёл накрыты двухсхільным дахам з трохвугольнымі франтонамі над тарцамі трансепта і вальмамі над алтаром. Галоўны фасад завершаны васьміграннай нізкай і глухой невялікай вежай. Уваход у святыню пазначаны глыбокай лоджыяй з дзвюма мураванымі калонамі на лініі галоўнага фасада.

Унутраная прастора падзелена мураванымі калонамі дарычнага ордэра на тры навы, цэнтральная з якіх значна шырэйшая за бакавыя. Інтэр'ер, перакрыты плоскай падшыўной столлю, упрыгожваюць чатыры каменныя алтары. Галоўны алтар і два бакавыя ўтвараюць адзіную аднаярусную шматкалонную кампазіцыю карынфскага ордэра з разьбяным Укрыжаваннем у цэнтры, абразом Езуса Уваскрослага ў левым алтары і Унебаўшэсця Езуса ў правым. Паміж алтарамі ўсталяваны разьбяныя паліхромныя фігуры св. Станіслава біскупа і св. Казіміра. Алтар з абразом Маці Божай Ласкавай са шматлікімі вотамі змешчаны ў паўночнай капліцы трансепта – чатыры спараныя мураваныя калоны дарычнага ордэра нясуць антаблемент, у метопах якога знаходзяцца выявы Мук Хрыста. У крыпце касцёла пахаваны Радзівілы, фундатары і калятары святыні. Над уваходам зроблены арганныя хоры на чатырох дарычных мураваных калонах.

Злева ад касцёла асобна пабудавана каркасная, таксама драўляная, двух'ярусная званіца. Комплекс абнесены невысокай бутавай агароджай з трохпралётнай уваходнай брамай у стылі класіцызму, цаглянай і атынкаванай.

Перад Другой сусветнай вайной колькасць вернікаў жырмунскай парафіі дасягала амаль 4000 чалавек. Да парафіі належаў хатні араторый у радзівілаўскім палацы ў двары Жырмуны.

Касцёл дзейнічаў увесь час, у 1970-я гг. быў уключаны ў спіс помнікаў архітэктуры. Да ўтварэння Гродзенскай дыяцэзіі жырмунская парафія заўсёды ўваходзіла ў склад Лідскага дэканата, з 1991 г. знаходзіцца ў Радунскім дэканаце.

# Да Маці Божай з ружанцам у руцэ

● працяг са с. 1

“Калі хочаце мець у вашых сэрцах і сем’ях супакой, маліцеся супольна на ружанцы”, – заахвочваў папа Пій IX і меў абсалютную рацыю, паколькі гэтая малітва дае багаты плён. Калі бацькі разам з дзецьмі моляцца святым Ружанцам, становяцца на калені перад абразом Найсвяцейшай Панны Марыі, не саромеюцца супольнай малітвы, а прагнуць умацаваць свой “хатні Касцёл”, тады будуюцца сапраўдныя сямейныя сувязі, вырашаюцца самыя складаныя пытанні, закладаюцца падмуркі веры, надзеі і любові.

Зараз у святынях з вуснаў святароў, біскупаў вельмі часта гучыць заклік да штодзённай ружанцовай малітвы. Няма ў гэтым нічога дзіўнага, бо такая форма малітвы не патрабуе нейкай унікальнай духоўнай фармацыі, кожны хрысціянін можа адгаворваць Ружанец. Прастак ці навуковец – няма значэння, трэба толькі шчыра верыць у Бога і любіць Нябесную Маці. Хтосьці можа сказаць, што сучаснаму чалавеку вельмі цяжка знайсці час на малітву, асабліва на разважанне таямніц Ружанца, але тут паўстае пытанне: “Чалавек – гаспадар часу ці наадварот?”. Таму варта знайсці вольныя хвіліны на Ружанец – малітву, якая надае кшталт нашаму жыццю і нашай штодзённасці. Гэта тая форма малітвы, якая пераплятае людскія справы з Божымі, злучае неба і зямлю, трэба толькі навучыцца праз Ружанец давяраць свае штодзённыя клопаты Богу, а з іншага боку – адкрываць Бога, які праз Ружанец становіцца часткай нашай штодзённасці. Нездарма падчас сваіх аб’яўленняў Маці Божая прасіла: “Адгаворвайце штодня Ружанец!”, бо дзякуючы яму чалавечае жыццё змяняецца ў лепш бок.

Аднак калі ідзе гаворка пра ружанцовую малітву, перад вачамі многіх людзей, напэўна паўстане вобраз ці, дакладней, такі стэрэатып: зморшчаная бабулька ў хустцы, якая кленчыць каля касцёльнай лаўкі, перабіраючы ў руках пацеркі. А ці так на самой справе?

З аднаго боку, сапраўды з ружанцам у руках ў касцёлах часцей можна сустрэць старэйшую жанчыну, чым маладую дзяўчыну ці хлопца. Але гэта зусім не сведчыць аб тым, што моладзь цураецца гэтай прыгожай малітвы. У сваім асяроддзі маладыя католікі ствараюць адмысловыя групы, каб супольна маліцца на ружанцы, а таксама ладзяць цікавыя акцыі, звязаныя асаблівым чынам з Ружанцам.

У гродзенскіх касцёлах адбываюцца духоўныя сустрэчы, мэта якіх – супольная малітва. Стала добрай традыцыяй, што перажываючы месяц святога Ружанца, моладзь выкарыстоўвае сучасныя тэхналогіі і моліцца на ружанцы праз Skype. Ініцыятыва малітоўнай акцыі зыходзіць ад душпастара гродзенскай каталіцкай моладзі кс. Антонія Грэмзы і саміх маладых католікаў, якія адным са сваіх абавязкаў лічаць распаўсюджванне Ружанца ў асяроддзі школьнікаў, студэнтаў і працоўнай моладзі.


Падчас супольнай малітвы на ружанцы праз скайп

Таксама ў гэтым годзе каталіцкая моладзь з парафіі Маці Божай Фацімскай у Жодзіне выйшла з прапановай штодзённай малітвы Святога Ружанца ў інтэрнэце і прапанавала ўсім ахвотным далучыцца да малітоўнага кола.

У сваю чаргу польская моладзь заклікала сваіх аднагодкаў з розных краін свету маліцца менавіта на ружанцы за мір у свеце. „У нас няма зброі, няма грошай. Мы не ведаем таксама ўплывовых людзей, але ў нас ёсць ружанец!”, – напісалі маладыя людзі з Нацыянальнага бюро па арганізацыі Сусветных дзён моладзі ў Польшчы. Яны папрасілі сваіх аднагодкаў зрабіць відэазапісы малітвы „Вітай, Марыя” на розных мовах. Менавіта з гэтых ролікаў быў створаны фільм, які прасоўвае акцыю „Я малюся за мір!”. Моладзь з усяго свету падтрымала акцыю.

**Чаму ўсе гэтыя людзі абралі марыйную ружанцовую школу? Бо менавіта праз гэтую малітву можна навучыцца радасна несці свой штодзённы крыж, карэкціраваць сваё жыццё і распазнаваць яго сэнс паводле Евангелля, жыцця Езуса і Марыі, адным словам – быць Божымі людзьмі.**

***Кінга Красіцкая***

## Слова для жыцця

### *Папа Францішак*



*Мы ўсе перажываем змаганні штодзённага жыцця. Наша штодзённасць часта можа прывесці нас да пэўнага роду панурай апатыі, якая паступовa становіцца навыкам са смяротным зыходам: нашыя сэрцы ўсё больш камянеюць. Мы не хочам, каб апатыя кіравала нашым жыццём. Ці не так? Таму мы павінны задаць сабе пытанне: што мы можам зрабіць, каб засцерагчы нашае сэрца ад усё большага акамянення, ад неадчувальнасці? Як мы можам паспрыяць узрастанню радасці Евангелля і зрабіць так, каб яна пусціла глыбейшыя карані ў нашым жыцці?*

*Езус дае адказ. Ён сказаў сваім вучням і кажа сёння нам: Ідзіце! Абвяшчайце! Радасць Евангелля – гэта штосьці, што трэба адчуць, што трэба спазнаць і перажыць, толькі дзяленне праз аддаванне сябе.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас св. Імшы ў Вашынгтоне*

### *Кс. бп Аляксандр Яшэўскі SDB*



*Кожная святыня – гэта месца, дзе людзі сустракаюцца, каб слухаць. Слухаць каго? Езуса, які ў Божым слове і сёння прамаўляе да нас. Слухаць гэтае Слова трэба чыстым і адкрытым сэрцам, і так, як Марыя, разважаць над ім у сваім сэрцы.*

*Святыня – гэта выключнае месца сустрэчы чалавека з Богам. Чырвоная лямпачка каля табернакулюма будзе ўдзень і ўначы зіхацець, каб нагадваць усім, што тут б’ецца сэрца, жывое сэрца Бога, які прагне сустрэцца з чалавечым сэрцам і напоўніць яго неабходнай сілай і ласкай.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас парафіяльнай урачыстасці ў Горках*

# У сто разоў больш атрымаеш ад Бога







### У касцёл прывёў тата

Нарадзілася сястра Зоя ў Санкт-Пецярбургу ў сям’і ўрачоў. Была чацвёртай з 15 дзяцей.

*“Мая мама вырасла ў сям’і, дзе не было веры, таму яна не магла мне яе перадаць. А тата католік. Менавіта ён прывёў усіх нас у касцёл”.*

Усіх дзяцей хрысцілі ў праваслаўнай царкве, таму што тады нідзе паблізу не было касцёла, куды можна было б бяспечна хадзіць: вера праследавалася. У 1990-х гадах ганенні спыніліся. І калі прыйшоў час рыхтавацца да Першай св. Камуніі, бацька прывёў дзяцей у каталіцкі касцёл.

*“Мушу прызнацца, што сустрэчу з Хрыстом падчас сваёй Першай св. Камуніі я не перажыла так глыбока, як пра гэта часта распавядаюць. Хадзіла ў касцёл, бо бацькі казалі, што так трэба. Бог быў мне абыякавы”.*

### Марыла іграць у аркестры і гадаваць дзяцей

*“Ва ўзросце 14-15 гадоў я ўжо мела план на сваё жыццё. Я вучылася іграць на скрыпцы і марыла выступаць у міжнародным аркестры. Хацела мець прыгожага мужа і па меншай меры пяцёра дзяцей”.*

У 1999 годзе дзяўчына паступіла ў музычнае вучылішча на спецыяльнасць “скрыпка”.

*“Мы з бацькамі пераехалі з ускраіны горада бліжэй да цэнтра і пачалі наведваць іншы касцёл. Там я пазнаёмілася з шанштацкімі сёстрамі. Яны жылі насупраць майго музычнага вучылішча, таму я часта заходзіла да іх на перапынку. Сёстры сардэчна мяне прымалі, ім нават не перашкаджалі мае практыкаванні на скрыпцы ў іх кватэры”.*

### Новае жыццё

Ва ўзросце 15 гадоў Зоя мела вельмі небяспечную аперацыю, якую яна магла не перажыць.

*“Часта бывае так, што перад аблічам смерці кагосьці блізкага нават няверуючы пачынае маліцца. Мама падчас маёй аперацыі горача прасіла ў Бога: «Няхай будзе ўсё, што хочаш, толькі каб мая дачка не памерла». І стала...”.*

Аперацыя прайшла паспяхова. Пасля таго, як Зоя ўявіла сабе, што зараз памрэ і стане перад аблічам Бога, з якім нават не знаёма, яна вырашыла ўсё змяніць: пачала больш маліцца і шукаць Бога ў сваім жыцці. Тады ёй вельмі дапамагалі сёстры, якія запрашалі яе на катэхезу для моладзі, фармацыйная сустрэчы, рэкалекцыі і супольную малітву.

*“Аднойчы я з сёстрамі і групай дзяўчат паехала ў Польшчу. Я была шакавана тым, што ля дарог узвышаюцца крыжы, што крыж вісіць на сцяне ў школе, на пошце, ва ўстановах. Нават у звычайны дзень у касцёле я бачыла столькі людзей, колькі ў нас не бывае на Святы. У Расіі не гавораць пра веру ў публічнай прасторы: у маёй краіне гэта не прынята. У Расіі католікаў каля аднаго працэнта. У Піцеры мы ведаем адзін аднаго ў твар. У вучылішчы, наколькі мне вядома, каталічкай была адна я. Гэта быў важны для мяне досвед, што католікаў у свеце шмат!”.*

Потым былі “Канікулы з Богам” у Пскове, новыя знаёмствы і ўсё глыбейшыя адносіны з Богам. Затым – шматлікія сустрэчы, рэкалекцыі. Раптам у дзяўчыны з’явілася дзіўнае жаданне – стаць сястрой.

### Барацьба з Божым планам

*“Але я не планавала быць сястрой. Ніколі пра гэта не думала. Па-першае, жыццё ў мяне было ўжо распланавана. Па-другое, я не ведала ні адной духоўнай асобы з Расіі. І калі ў маёй галаве ўзнікла такая шалёная ідэя, я пачала з ёю змагацца. Радзей наведвала касцёл, «змяніла» сяброў, пачала слухаць “цяжкую” музыку. Я ўвайшла ў абсалютна няверуючую і не надта добрую кампанію”.*

Цэлы год дзяўчына вяла барацьбу з Богам, а пасля паддалася голасу, які быў ціхім і лагодным, але не даваў сябе заглушыць. Вырашыла пайсці шляхам свайго паклікання. Ва ўзросце 19 гадоў скончыла вучылішча і хацела паступіць да шанштацкіх сясцёр. Аб сваім рашэнні трэба было паведаміць бацькам.

*“Тата даўно заўважыў, чаго я прагну. Але маме было цяжка зразумець маё рашэнне. Яна была ўпэўнена, што я буду паступаць у кансерваторыю, і слёзна прасіла мяне яшчэ трошкі пачакаць”.*

Тады дзяўчына пачала жыць асобна ад бацькоў, уладкавалася на працу ў музычную школу. У гэты ж час маці арганізавала для дачкі паездку ў Парыж. І нават усё падрыхтавала, калі б дзяўчына захацела там застацца.

### Абранніца Хрыста

Але яна вярнулася і ва ўзросце 21 год паехала ў Правінцыяльны дом шанштацкіх сясцёр у Свідэр каля Варшавы. Пастулят, навіцыят, у 2008 годзе сястра складае першыя манаскія абяцанні на год. Потым на два гады, на тры. У гэты час сястра працуе ў Правінцыяльным доме пад Варшавай, затым – у курыі ў Маскве. У 2011 годзе на некаторы час вяртаецца ў Польшчу, і вось ужо чацвёрты год служыць ў Беларусі.

Вечныя шлюбы сястра склала ў мінулым годзе 5 чэрвеня.

*“Людзям часта цяжка зразумець, што я абранніца Езуса, што Ён галоўны ў маім жыцці. Я хачу належаць Яму поўнасцю і заўсёды, нягледзячы на цяжкасці і маю слабасць”.*

І хоць сястра Зоя не стала скрыпачкай і не выступае ў міжнародным аркестры, яна часта іграе на скрыпцы, і здараецца, што нават з цудоўнымі музыкантамі з розных краін.

**“І кожны, хто пакінуў дом, ці братоў, ці сясцёр, ці айцоў, ці маці, ці дзяцей, ці землі дзеля Майго імя, здабудзе ў сто разоў больш і атрымае ў спадчыну жыццё вечнае” (Мц 19, 29).**

***Ангеліна Пакачайла***




◆ *По рашэнні папы Францішка, падчас Юбілейнага Года міласэрнасці вернікі змогуць атрымаць адпушчэнне грахоў у святароў Братэрства святога Пія X (лефебрыстаў). Папа верыць, што ў бліжэйшы час будзе знойдзена рашэнне для аднаўлення поўных адносін са святарамі і біскупамі Кангрэгацыі. У адказ Братэрства выпусціла заяву, у якой выказала сваю падзяку Пантыфіку за гэты бацькоўскі жэст. Заява адлюстроўвае веру ў тое, што нават калі святары Братэрства не атрымліваюць права на правядзенне споведзі ад мясцовых ардынарыяў (з-за іх асаблівага статусу ў Царкве), адпушчэнне грахоў, тым не менш, будзе сапраўдным.*

◆ *Члены Савета кардыналаў (К-9) прадставілі Святому Айцу канчатковую прапанову стварэння новай дыкастэрыі па справах свецкіх, сям'і і жыцця. Камісія закранула таксама пытанні, звязаныя са спосабамі прызначэння біскупаў і паскарэннем працэсаў аб выкарыстанні непаўналетніх духоўнымі асобамі. Прэс-сакратар Апостальскай Сталіцы адзначыў, што новая дыкастэрыя можа ўтварыцца раней, чым будзе апублікавана новая апостальская канстытуцыя аб Рымскай курыі. Гаварылася таксама аб новай дыкастэрыі, якая будзе займацца пытаннямі міласэрнасці, справядлівасці і міру. Аднак гэты праект яшчэ дастаткова сыры, і Савет пакуль не апрацаваў канчатковага рашэння. Чарговая сесія камісіі адбудзецца 10–12 снежня бягучага года.*

◆ *У Львове плануецца стварыць парк духоўнай культуры імя Святога Папы Рымскага Яна Паўла ІІ. Задума палягае на акультурванні лесапаркавай паласы з уладкаваннем Крыжовага шляху, будаўніцтве на зялёнай тэрыторыі Катэхетычнай школы і пешаходнага бульвара. На буйнейшых вузлах у паркавай зоне будуць размешчаны мабільныя кавярні, арганізаваны пракат веласіпедаў, ролікаў, лыж. Актывісты ўпэўнены, што ў выніку атрымаецца ўнікальны сучасны парк духоўнай культуры, дзе можна будзе аздаравіць душу і сэрца. Праект гатовы і знаходзіцца на дзяржаўнай экспертызе. Задуму плануецца рэалізаваць у пяцігадовы тэрмін.*

◆ *Святар са штата Пенсільванія (ЗША) Боб Сайман пабудаваў з канструктара "Лега" міні-копію Ватыкана. На стварэнне ансамбля спатрэбілася 10 месяцаў працы і больш за 44 тысячы элементаў канструктара. "Я шмат маліўся, пакуль займаўся будаўніцтвам майго Ватыкана, – успамінае ксёндз Боб. – Паўтаральныя дзеянні з канструктарам вельмі медытатыўныя і чымсьці нагадваюць Ружанец". Лялечная дзяржава населена не толькі духавенствам: на міні-плошчы св. Пятра сабраліся амаль усе персанажы, прапанаваныя ў гатовым наборы канструктара – піраты, разбойнікі, маракі. Паводле задумы святара, гэта патрэбна, каб паказаць людзям, што Касцёл прымае ўсіх без выключэння. Лега-Ватыкан дэманструецца ў выставачнай зале Інстытута Франкліна ў Філадэльфіі.*

◆ *Спецыяльны аўтамабіль-капліца перавозіць перэгрынуючыя па Бельска-Жывецкай дыяцэзіі знакі міласэрнасці – абраз Езуса Міласэрнага, а таксама рэліквіі св. Фаўстыны і св. Яна Паўла ІІ. Адзіны такі ў свеце фольксваген мае памеры больш за 3 метры ў вышыню і 5 метраў у даўжыню. Перэгрынацыя копіі абраза Пана Езуса Міласэрнага з кракаўскіх Лагеўнікаў у Бельска-Жывецкай дыяцэзіі распачалася 20 верасня і працягнецца да 19 чэрвеня 2016 года.*

*credo-ua.org; katolik.ru; ekai.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# На Святой Зямлі асвяцілі табліцы з надпісамі па-беларуску

● *працяг са с. 1*

У літургіі прынялі ўдзел святары і каля 300 беларускіх вернікаў, якія прыбылі на Святую Зямлю адмыслова з гэтай нагоды.

Святую Імшу ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, у ёй удзельнічалі таксама дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец і Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек.

Мітрапаліт адзначыў, што цэлебруе гэтую Імшу ў інтэнцыі Беларусі, каб "наш народ будаваў сваю будучыню на нязменных хрысціянскіх каштоўнасцях".

У сваёй гаміліі арцыбіскуп нагадаў пра сустрэчу Марыі і Альжбеты і падкрэсліў асаблівасць іх сустрэчы. "Божы Провід прывёў нас на месца, дзе адбылася сустрэча дзвюх благаслаўлёных жанчын – Марыі і Альжбеты. Альжбета назвала Марыю благаслаўлёнай, бо яна паверыла Богу. Марыя ў сваю чаргу ў адказ праспявала свой славуты гімн «Magnificat», які часта называюць «Песняй Марыі»", – адзначыў іерарх.

Як дадаў арцыпастыр, словы гімну Марыі маюць "рэвалюцыйны характар": "Яны – сапраўдная бомба, якая пераварочвае прынятыя ў свеце каштоўнасці з ног на галаву, асабліва калі браць пад увагу культурныя, рэлігійныя, палітычныя і сацыяльныя кантэкст таго часу".

Іерарх заклікаў да "духоўнай рэвалюцыі" ў сваім сэрцы, каб па прыкладзе Марыі быць верным Богу.

Падчас асвячэння табліцы "Magnificat" іерархі па чарзе, укленчыўшы, ушанавалі ўсталяваную табліцу. Табліца з тэкстам "Magnificat" на беларускай мове дапоўніла "сям'ю табліц" у гэтым месцы, у ліку якіх, напрыклад, нават мова Мазамбіка і Нігерыі, тамільская і галійская мовы і г.д.

Асаблівая падзяка была выказана спонсару – Віктару Обуху, католіку, які дапамог са сродкамі на ўсталяванне гэтых табліц на Святой Зямлі.

"Я вельмі ўсхваляваны сёння, але і шчаслівы адначасова, – адзначыў Віктар Обух. – У Беларусі ёсць людзі, якія вераць у Бога і з'яўляюцца сапраўднымі сведкамі веры. Гэта вельмі важна".

Таксама да пілігрымаў звярнуўся віцэ-кусташ Кустодыі Святой Зямлі з ордэна францішканцаў. "Святыя месцы маюць вельмі вялікую вартасць, калі тыя, хто іх наведвае, робяць гэта з малітвай, – адзначыў манах францішканец. – Гэтыя табліцы не служаць для дэкарацыі, яны сведчаць аб веры і вернасці беларускага народа з Паўсюднаму Касцёлу. Застаючыся тут, яны будуць сведчыць пра вашу прысутнасць".

Спеў "Магутны Божа", які напрыканцы Імшы праспявалі пілігрымы, па праву лічыцца адмысловым гімнам беларускіх хрысціян. Кожнае слова з песні вяртае чалавека да яго радзімы – Беларусі. Простыя і ў той жа час знаёмыя кожнаму з дзяцінства словы – пра лусту хлеба, жытнёвыя нівы, штодзённую працу, веліч веры, праўду і прышласць... Калі спяваеш гэты спеў за мяжой, і асабліва на Святой Зямлі, у памяці абавязкова ўсплываюць вобразы Радзімы, матуліных вачэй, свежага хлеба, водару роднай зямлі. Прыгадваеш мінулае Беларусі, часы атэізму, веруючых беларусаў, якія рызыкавалі сваім жыццём, але не выракліся галоўнага – сваёй веры.




*Памятныя дошкі ў г. Эйн-Карэм на Святой зямлі*



*Урачыстая св. Імша для беларускіх пілігрымаў была адпраўлена ў інтэнцыі Беларусі*

Пасля святой Імшы іерархі разам з вернікамі прайшлі ў працэсіі да месца, дзе стаяў дом Захарыі, каб асвяціць табліцу "Benedictus". Супольны Ружанец у дарозе дадаваў пілігрымам духоўных сіл.

Перад урачыстым асвячэннем арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў, што табліца з гімнам "Benedictus" будзе прыгадваць усім наведвальнікам гэтага месца, што Бог таксама жыве і ў Беларусі. "Калі я асвячаў гэтыя табліцы, мяне ахопліваў гонар за наш народ, – распавёў пасля ў каментарыі для Catholic.by Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч. – У сэрцы я адчуваў бязмерную ўдзячнасць Богу за тое, што Ён даў нашаму Касцёлу ажыць".

Прыгадваючы момант спеву "Магутны Божа", арцыпастыр дадаў: "Сумесны спеў гімну стаў пацвярджэннем таго, што пілігрымка была нацыянальнай, што яна мае вялікае значэнне. Адчуваўся гонар за наш Касцёл і краіну. Гэта было бачна на тварах людзей".

***Ілья Лапато***
*Фота Аляксандры Шчыглінскай*
*паводле catholic.by*




***«Иисус есть среди нас, и Он есть в тебе» – это слова, которые с силой Духа Божьего прозвучали в начале конференции из уст кс. Яна Речека. Не думаю, что эти слова были новостью для присутствующих, но они прозвучали как слова самого Иисуса и тронули моё сердце. Надеюсь, что они коснулись также остальных сердец.***

*11 сентября я с супругой и братьями из группы «Мужчины св. Иосифа» из Гродно направился в Верейки на мини-реколлекции, которые проводил кс. Ян Речек с сестрой Станиславой. Встреча началась со святой Мессы и конференции. Большинство присутствующих составляли местные прихожане.*

*На протяжении 7 часов кс. Ян Речек и с. Станислава служили индивидуальной заступнической молитвой. Кс. Ян на конференции и проповеди фокусировал наше внимание на милосердии Божьем. Говорил о том, что Бог всегда хочет показать и дать нам новую жизнь: «Иисус хочет прикоснуться к нашим сердцам, чтобы показать другую перспективу нашей жизни. Желанием Христа является то, чтобы мы были исполнены Духом Святым, чтобы мы принадлежали Богу, и не было в нас тьмы. Цель миссии Христа и Евангелия заключается в том, чтобы мы были святы, чтобы мы были подобны Христу».*

*Реколлекционист неоднократно говорил о необходимости полной отдачи Богу, чтобы позволить Духу Святому руководить нашим мышлением и поступками. Для этого необходимо:*

*1) освободить сердце от зла. Помочь в этом нам может Иисус. Мы должны просить Его о том, чтобы Он помог нам навести порядок в наших сердцах, чтобы мы могли принять Его благословения.*

# Дзяцей і моладзь блаславілі на новы навучальны год




Пілігрымка з нагоды пачатку навучальнага і катэхетычнага года сабрала шматлікіх дзяцей, іх бацькоў і душпастараў

● працяг са с. 1

### Занесці Марыі свае інтэнцыі

Шматлікіх дзяцей і моладзь на шляху да Маці Божай суправаджалі бацькі, апекуны і катэхеты. Да Узгорка Надзеі ў Капцёўцы пілігрымавалі таксама навучэнцы Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі. Усе пілігрымы неслі да трона Маці свае інтэнцыі і просьбы. Вераніка Ігнатовіч, якая ў гэты дзень не змагла заставацца дома, прызнаецца, што мела шмат інтэнцый. *"Мы маліліся за нашу моладзь, за цяжка хворых, за дзяцей, якія ішлі з намі. Мы прасілі Бога, каб Ён вёў нас за сабою. Асабліва ў час гэтай пілігрымкі мы маліліся за нашы сем'і, якія павінны будаваць сваю будучыню на Богу, бо без Яго ў жыцці мы нічога не пабудуем"*, – адзначае Вераніка.

Падзяліць з вернікамі працу пілігрымавання – 16 км – пажадаў і дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, які некаторы час у інтэнцыі сем'яў нёс крыж наперадзе пілігрымкі.

### Папрасіць Марыю аб суправаджэнні ў жыцці

Пілігрымка, нават калі яна трывае адзін дзень, уносіць у жыццё чалавека шмат дабра, а асабліва новай энергіі і радасці. Таму ў гэты дзень у пілігрымцы ўдзельнічала і шмат той моладзі, якая прыехала здалёк, адклаўшы свае навучальныя справы. Віктар Прэсняцкі, з гэтага года студэнт аднаго з мінскіх універсітэтаў, таксама палічыў, што павінен абавязкова ўдзельнічаць у гэтай пілігрымцы. *"Калі вырываешся з вучобы ў гэтую родную атмасферу, разумееш, як моцна сумаваў па пілігрымках. Мы ішлі да нашай Мамы, каб папрасіць дапамогі на новы навучальны год. Да таго ж, гэта была выдатная нагода сабрацца сваёй пілігрымскай сям'ёй, каб ісці разам. І, як заўсёды, нас суправаджалі песні, танцы і, канешне ж, Пан Езус"*, – кажа малады чалавек.

Традыцыйна пілігрымаў вітаў на Узгорку Надзеі кусташ санктуарыя кс. Міхал Ластоўскі, які разам з парафіянамі штогод гасціннна адчыняе дзверы святыні і дома пілігрыма. У гэты дзень ніхто не пакінуў гэтае месца галодным фізічна і духоўна. Падчас малітвы кожны, калі толькі адкрыецца на дзейнасць Божай ласкі, вяртаецца да сваіх спраў моцны Богам, умацаваны сакрамантам Эўхарыстыі. А дзякуючы гасціннасці гаспадароў і велічы іх сэрцаў, атрымлівае смачную ежу і аднаўляе свае сілы.

### Атрымаць канкрэтнае заданне – быць працавітым

Урачыстую святую Імшу цэлебраваў разам са святарамі і дапаможным біскупам Юзафам Станеўскім біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Звяртаючыся да дзяцей і моладзі, ардынарый заклікаў іх "цаніць матчын клопат Касцёла" аб перадачы ім навучання Хрыста і забеспячэнні паўнаты жыцця ў веры. Таксама іерарх заахвоціў іх з зацікаўленнем і сістэматычна наведваць урокі рэлігіі, "быць руплівымі, уважлівымі, працавітымі, адкрытымі на словы Добрай Навіны", якія перадаюць ім катэхеты.

Біскуп падзякаваў усім святарам, дыяканам, манаскім сёстрам, катэхеткам і катэхетам, якія з вялікай самаахвярнасцю і адданасцю ўдзельнічаюць у катэхетычнай дзейнасці Касцёла, за тое, што з любоўю і клопатам яны перадаюць збаўчае пасланне Езуса Хрыста. *"Імкніцеся дайсці з радасным пасланнем Добрай Навіны да як мага большай колькасці дзяцей і моладзі"*, – заклікаў іерарх.

На заканчэнне Імшы былі асвечаны заплечнікі і школьныя прылады, якія дзеці і моладзь прынеслі з сабою ў пілігрымку.

Пасля Імшы адбылася другая частка сустрэчы, на якой былі прэзэнтаваны парафіяльныя групы, што прыбылі ў санктуарый. Было шмат спеваў і радасці. Вясёлай забавай сталі інтэграцыйныя танцы. Стварэнню радаснай атмасферы паспрыялі навучэнцы духоўнай семінарыі і моладзь з душпастарства "OPEN", якія суправаджалі сустрэчу акампанементам і спевам.

Дзеці і моладзь – удзельнікі пілігрымкі – вярталіся дадому напоўненыя Божай энергіяй: каб здабываць жыццёвую мудрасць, каб вучыцца чалавечнасці, каб быць добрымі хрысціянамі, чаго так патрабуе сучасны свет; вярталіся ўмацаваныя пастарскім бласлаўленнем абодвух біскупаў.

### Вярнуцца перамененым чалавекам

Змены, якія на працягу аднаго дня адбыліся ў жыцці дзяцей і моладзі – будучыні Касцёла і народа, – заўважылі нават некаторыя бацькі. Вераніка Гавецкая, вярнуўшыся дадому, падзялілася: *"Калі я прыйшла дадому, мае бацькі мне сказалі, што знешне я выглядаю стомленай, а ўнутрана я "жыўчык", і здзівіліся, адкуль з'явілася гэтая энергія і столькі сіл". "Я ўдзячная нашай Мамачцы за тое, што Яна зрабіла ўсё так, што кожны з нас змог прыехаць і мы сустрэліся адзін з адным – усе разам мы змаглі прыйсці да Яе і як адна вялікая і дружная сям'я ўсміхнуцца Ёй і сказаць простае «дзякуй»"*, – дадае Вераніка Гавецкая.

Пілігрымы адзначаюць, што такія сустрэчы, якія арганізуе Касцёл, яднаюць людзей, і нягледзячы на тое, што кожны чалавек адметны і па знешнасці, і па характары, і па тэмпераменце, разам яны становяцца адным цэлым, сям'ёй.

Яўген Калеснік кажа, што ўсе ўдзельнікі такіх сустрэч утвараюць сям'ю, дзе кожны дапаўняе іншага. *"Гэтыя пілігрымкі нас вельмі моцна збліжаюць, аб'ядноўваюць, пашыраюць нашу сям'ю. Мы адно цэлае, якое нават без аднаго чалавека зубляе сваю сутнасць. Мы ніколі не забудзем адзін аднаго, гэта проста немагчыма"*, – дадае малады чалавек.

Дзеці і моладзь Гродна і ваколіц вельмі ўдзячныя сваім біскупам, святарам, манаскім сёстрам і катэхетам за вялікі клопат, якім яны атачаюць будучыню Касцёла. Яны вельмі ўдзячныя таксама кусташу санктуарыя кс. Міхалу Ластоўскаму за арганізацыю пілігрымкі, урачыстасцей у Капцёўцы, а таксама за мноства пазітыўных уражанняў.

*"Уражанні вельмі добрыя. Выдатная атмасфера, шмат знаёмых людзей, а таксама ёсць цудоўная магчымасць набыць новых сяброў. Праграма была вельмі цікавай, і нават дождж не перашкодзіў весела правесці гэты час. Усё было на вышэйшым узроўні. Вялікі дзякуй арганізатарам"*, – кажа Яна Зарыхта.

**Кс. Юрый Марціновіч,**
*паводле catholic.by*

---

*2) излечиться от ранений сердца. Причиной ранений сердца является недостаток любви (к примеру, недополучение любви от матери или отца). В данной ситуации человек постоянно находится в состоянии ожидания, что его хотят обмануть. Дух Божий не может действовать в жизни такого человека. Весь недостаток любви необходимо отдать Иисусу.*

*Реколлекционист подчеркнул, что «без исцеления человек не может принять Духа Святого в полной мере».*

*«Господь всегда смотрит глубоко в наши сердца. Когда мы смотрим на нашу болезнь и просим об исцелении, Иисус смотрит глубже – на причину болезни. Первое, что должен сделать человек – это принять мир в сердце. Беспокойство сердца – первоисточник наших болезней».*

*После вечерней Мессы была адорация с заступнической молитвой. Иисус обращался к собравшимся через с. Станиславу. Звучали слова ободрения и укрепления для нас всех. К некоторым из присутствующих лично было направлено слово, в котором Иисус говорил о данном человеку даре для служения или об исцелении от конкретной болезни.*

*День мини-реколлекций прошёл быстро, но это было ценное время, и я верю, что то Слово, которое попало в наши сердца из уст кс. Речека и с. Станиславы, пребудет в нас и даст плоды.*

*Костёл в Верейках был наполнен до предела, в Росси верующие собрались в количестве большем, чем мог вместить костёл. И слава Богу! Значит, людей «цепляет» Слово Божье, и они нуждаются в подобных встречах. Я, равно как многие братья и сёстры, надеюсь, что следующий раз реколлекции такого плана пройдут в Гродно – центре нашей епархии.*

***Анатолий Канарский***

---

## З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ

**wiara.pl**

### Вяночак на вуліцах свету 2015

**Чарговая акцыя "Вяночак да Божай міласэрнасці на вуліцах гарадоў свету" адбылася 28 верасня.**

*Ідэя акцыі простая: кожны год у гадавіну беатыфікацыі бл. Міхала Сапоцькі, спаведніка св. Фаўстыны, збірацца на скрыжаваннях вуліц у розных частках свету і прасіць аб Божай міласэрнасці для сябе і ўсяго свету. Так свет затрымліваецца ў разважанні і сузіранні Божай міласэрнасці.*

*У гэтым годзе да малітвы былі далучаны капітаны самалётаў і караблёў разам са сваім экіпажам, а таксама вадзіцелі аўтатранспарту. "Праз капеланаў аэрапортаў, суднаходства і прыдарожных капліц яны атрымалі трыптыхі з абразом "Езу, давяраю Табе" і тэкстам Вяночка. Праз некалькі месяцаў трыптыхі былі распаўсюджаны па цэлым свеце, і многія людзі дзякуючы ім пачалі адгаворваць Вяночак", – сказаў духоўны апякун акцыі а. Рэмігіуш Рэцлаў.*

**Radio Vaticana**

### У Філадэльфіі завяршыўся "Кангрэс сям'і"

**Ён адбыўся 22–25 верасня ў межах VIII Сусветнай сустрэчы сем'яў, якая праходзіць у самым вялікім горадзе Пенсільваніі пад дэвізам: "Любоў – наша місія: сям'я, якая жыве ў паўнаце".**

*У кангрэсе прынялі ўдзел амаль 20 тысяч чалавек: сотні біскупаў, ксяндзоў, кансэкраваных асоб і, перш за ўсё, сямей з усяго свету. Праграма сустрэч датычылася розных выклікаў для сучаснай сям'і: выхавання дзяцей, адносін паміж мужчынам і жанчынай, апекі над людзьмі з абмежаванымі магчымасцямі і пажылымі людзьмі, ролі дзядуль і бабуль у сям'і, смерці сужэнца ці дзіцяці, а таксама разводаў.*

*На VIII Сусветнай сустрэчы сем'яў прысутнічаў таксама папа Францішак. Ён узначаліў св. Імшу, а таксама прыняў удзел у сустрэчы на карысць рэлігійнай свабоды.*

**eKAI.pl**

### Папа сустрэнецца з Прэзідэнтам Дудам

**Святы Айцец прыме на аўдыенцыі ў Ватыкане Прэзідэнта РП Анджэя Дуду 9 лістапада 2015 года.**

*У праграме візіту побач з сустрэчай са Святым Айцом будзе таксама размова з Дзяржсакратаром Апостальскай Сталіцы кард. П'етра Паралінам. Акрамя гэтага, прэзідэнт Дуда наведае магілу св. Яна Паўла II і св. Пятра.*

***Кінга Красіцкая***

## Рэкалекцыі для катэхетаў адбыліся ў Шчучыне

*Пачаўся новы навучальны год, і прыйшла неабходнасць сустрэчы катэхетаў і слухачоў катэхетычных курсаў Гродзенскай дыяцэзіі. У сувязі з гэтым Аддзел каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі, які ўзначальвае а. д-р Андрэй Шчупал CSsR, арганізаваў рэкалекцыі ў Шчучыне.*



Рэкалекцыі правёў а. Ян Асіповіч SP, які з'яўляецца не толькі кваліфікаваным спецыялістам па працы з дзецьмі і моладдзю, педагогам па другой адукацыі, але таксама чалавекам, які з радасцю і гарачым сэрцам дзеліцца сваім вопытам і ведамі з іншымі людзьмі, якія ступілі на шлях катэхізацыі і евангелізацыі.

Рэкалекцыі завяршыліся святой Імшой, на якой іх удзельнікі разам з дзецьмі – выхаванцамі айцоў піяраў – дзякавалі Богу і звярталіся да Яго са сваімі просьбамі.

## Дзень "Карытас" адбыўся ў парафіі ў Дзярэчыне

*Сустрэча адбылася 20 верасня ў парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.*



Для парафіян гэта была добрая магчымасць задаць пытанні і атрымаць кансультацыю па аказанні сацыяльнай і гуманітарнай дапамогі. У гэты дзень супрацоўнікі "Карытас" наведалі яшчэ дзве парафіі – Святога Міхала Арханёла ў в. Луконіца і Святой Сям'і ў в. Стары Двор.

З дапамогай мабільнай выставы "Карытас", у якой адлюстраваны галоўныя праекты таварыства, парафіяне маглі азнаёміцца з яго дабрачыннай дзейнасцю ў Гродзенскай дыяцэзіі.

21 верасня для супрацоўнікаў "Карытас-Гродна" прайшла малітоўная сустрэча, якую правёў пробашч дзярэчынскай парафіі кс. Яўген Учкуроніс.

## 25-годдзе служэння айцоў палатынаў адзначылі ў Воранаве

*У святкаванні, якое адбывалася ў парафіі св. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша, прыняў удзел Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.*



Падчас Імшы Мітрапаліт нагадаў пра тыя часы, калі пасля дзесацігоддзяў ганенняў пачыналася адраджэнне Касцёла ў Беларусі і калі палатыны прапанавалі сваю дапамогу і пачалі працу ў Воранаве. Мітрапаліт таксама дадаў, што любоў Хрыста з'яўляецца "маторам дзейнасці палатынаў".

На сённяшні дзень супольнасць палатынаў вядзе душпастарскую працу ў розных накірунках: выпускае газеты, брашуры, арганізуе пілігрымкі. На тэрыторыі Беларусі налічваецца 12 айцоў палатынаў. Служаць яны ў Воранаве, Германішках, Бярозе, Жлобіне, Талочыне, Мінску, выкладаюць у Катэхетычным каледжы імя Зыгмунта Лазінскага ў Баранавічах. У гэтым годзе яны атрымалі дазвол наведваць хворых у шпіталях.

## Адбылася сустрэча катэхетаў Гродзенскай дыяцэзіі

*У сустрэчы прынялі ўдзел таксама гродзенскі ардынарый Аляксандр Кашкевіч і дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Іерархі падзякавалі катэхетам за іх ахвярнае і адданае служэнне ў Касцёле, якое належыць да яго найважнейшых заданняў.*



Дырэктар Аддзела каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі а. д-р Андрэй Шчупал CSsR у сваім дакладзе адзначыў, што катэхет павінен нястомна шукаць новыя спосабы і метады таго, як дайсці да чалавека. Таксама святар заўважыў, што катэхізацыяй неабходна ахапіць не толькі дзяцей, але і дарослых, якія падчас пераследу веры не мелі такой магчымасці. У сваю чаргу прэфект Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне кс. Андрэй Лішко ў сваім дакладзе ўзняў адну з найбольш актуальных тэм – выкарыстанне інтэрнэта ў катэхезе, і разважаў над тым, шанс гэта ці пагроза. Сустрэча завяршылася святой Імшой у касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі, якую ўзначаліў біскуп Аляксандр Кашкевіч.

## Амерыканскае падарожжа папы Францішка

*Дзясятае замежнае апостальскае падарожжа Папы адбывалася ад 19 да 27 верасня і агарнула Кубу, а затым Злучаныя Штаты.*



Францішак – трэці Папа за апошнія 18 гадоў, які наведаў Кубу. Гэтае апостальскае падарожжа мела асаблівае значэнне, таму што для Святога Айца і Апостальскай Сталіцы ключавой мэтай з'яўляецца тое, каб рэлігійная свабода ў гэтай камуністычнай краіне вярнулася ў поўным значэнні гэтага слова і каб Куба зноў сапраўды стала каталіцкай краінай, бо такой яна была. Акрамя таго, падчас шасцідзённай пілігрымкі Папа наведаў Вашынгтон, Нью-Ёрк і Філадэльфію. У амерыканскай сталіцы Святы Айцец сустрэўся з Прэзідэнтам Баракам Абамам у Белым доме, выступаў у Кангрэсе, дзе заклікаў да барацьбы з беднасцю, аховы навакольнага асяроддзя, адкрытасці на імігрантаў, скасавання смяротнага пакарання, а таксама да абароны традыцыйнай сям'і. Таксама Пантыфік сустрэўся з імігрантамі, беднымі і адрынутымі. У Нью-Ёрку выступіў з прамовай у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і маліўся ў інтэнцыі ахвяр тэрарыстычных актаў. А ў Філадэльфіі Францішак прыняў удзел у Сусветнай сустрэчы сем'яў.

## Бп Юрый Касабуцкі прыняў удзел у парафіяльнай урачыстасці ў Ваўкавыску

*У парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску адбыўся парафіяльны фэст ва ўспамін яе святога апекуна. На свята прыбылі шматлікія вернікі з розных куткоў дэканата, а таксама дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі.*




У гаміліі іерарх наблізіў вернікам постаць святога Станіслава Косткі. Кажучы пра выпрабаванні ў жыцці святога, іерарх падкрэсліў, што калі чалавек вытрывае ў сваіх выпрабаваннях да канца, ён будзе збаўлены.

Імша завяршылася Літаніяй да св. Станіслава Косткі перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Пасля адбылася ўрачыстая працэсія. На заканчэнне ўрачыстасці біскуп Юрый Касабуцкі сустрэўся з дзецьмі і моладдзю і ўдзяліў ім блаславенне.

## ІНФАРМАЦЫЯ

### Няспынная малітва за Беларусь

**Кругласутачная неперарыўная малітоўная чарга складаецца мінімум са 168 чалавек, кожны з якіх на працягу адной гадзіны раз на тыдзень моліцца за краіну. Далучайцеся!**

*Выбірайце сваю гадзіну, напрыклад, пятніца з 14.00 да 15.00.*
*Запіс па тэлефоне: (29) 593-71-60 (Вольга) або праз пошту malitvazabelrus@gmail.com.*
*Беларусь патрабуе нашай малітвы!*

### Працягваецца набор на вучобу на Курсах сямейнага жыцця ў Гродне

**Усе жадаючыя запрашаюцца да ўдзелу ў занятках, якія распавядаюць аб фундаментальных праўдах веры і хрысціянскай сям'і. Галоўная мэта курсаў – падрыхтоўка кваліфікаваных кадраў для працы ў сямейных кансультацыях.**

*Заняткі ў 2015/2016 навучальным годзе будуць праходзіць у айцоў рэдэмптарыстаў па адрасе: Гродна, вул. Курчатава, 20 (Дзевятоўка). Жадаючыя могуць атрымаць падрабязную інфармацыю, а таксама запісацца па тэлефоне: (+375 29) 588-42-73 – Ірына Мялешка.*

## АБ'ЯВЫ

### Адбудзецца сустрэча сем'яў Гродзенскай дыяцэзіі і малітва за сем'і

**17 кастрычніка ў парафіі Святой Сям'і ў Лідзе адбудзецца дыяцэзіяльная сустрэча сем'яў. Запрашаюцца ўсе сем'і Гродзенскай дыяцэзіі, асабліва тыя, якія ў гэтым годзе адзначаюць юбілей заключэння шлюбу, а таксама дзеці і моладзь.**

Падчас сустрэчы ўдзельнікі будуць маліцца за Святога Айца Францішка, у інтэнцыі Сінода Біскупаў, пасяджэнні якога восенню гэтага года будуць прысвечаны праблемам сям'і, і ў інтэнцыі саміх сужэнстваў і сем'яў.

На наступны дзень, 18 кастрычніка, ва ўсіх касцёлах і капліцах Гродзенскай дыяцэзіі будуць маліцца за сем'і.

**Праграма сустрэчы:**
**(17 кастрычніка, Ліда, парафія Святой Сям'і)**

**10.30 – рэгістрацыя груп і прывітанне;**
**11.00 – канферэнцыя для бацькоў, анімацыйныя забавы для дзяцей;**
**11.30 – перапынак на каву;**
**12.00 – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;**
**13.00 – прадстаўленне, падрыхтаванае дзецьмі;**
**14.00 – абед;**
**15.00 – святая Імша з аднаўленнем сужэнскіх абяцанняў.**
**Акт аддання сем'яў Маці Божай і заканчэнне.**

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### *Ці будзеце Вы ў кастрычніку ўдзельнічаць у ружанцовых набажэнствах?*




*Чарговае апытанне датычылася ружанцовай малітвы. Рэспандэнты маглі выказаць уласную пазіцыю адносна свайго ўдзелу ў ружанцовых набажэнствах. Палова ўдзельнікаў апытання адзначае, што будзе прымаць удзел у ружанцовых набажэнствах, калі будзе дазваляць час. Ёсць таксама тыя, хто заявіў, што кожны дзень будзе адгаворваць Ружанец. Невялікая група людзей яшчэ не вырашыла. Варта ўжо на пачатку месяца так запланаваць свой час, каб у ім знайшлося месца і на ружанцовую малітву.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



*Кс. Павел Салабуда*

*Ружанцовае апытанне дае нам магчымасць задумацца над тым, наколькі мы любім Ружанец. Магчыма, гэта малітва, да якой мы звяртаемся на працягу ўсяго года, ці, можа, малітва толькі аднаго месяца альбо толькі некалькіх дзён. Ружанец мы можам адгаворваць не толькі ў касцёле. Калі ў нас няма часу, каб пайсці ў святыню, мы можам памаліцца Ружанцам дома з усёй сям'ёй, на працы, там, дзе мы праводзім найбольш часу. Я заахвочваю кожнага чалавека палюбіць ружанцовую малітву. Ружанец здзяйсняе мноства цудаў. Праз заступніцтва Марыі мы становімся бліжэй да Хрыста. Ружанец вучыць нас жыць поўнасцю згодна з патрабаваннямі хрысціянскай веры.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**6 кастрычніка 1996 г. –** кс. Станіслаў Роек SchP, *праб. Ліда-Фара;*
**6 кастрычніка 2002 г. –** кс. Антоній Саміла, *праб. Гожа, Путрышкі, Прывалка;*
**7 кастрычніка 1960 г. –** бр. Панталеон Жэброўскі SchP, *Ліда;*
**7 кастрычніка 1962 г. –** кс. Уладзіслаў Красоўскі, *праб. Галынка.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




*Хвала Хрысту!*

*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі "На скрыжаванні". У сённяшнім нумары паразважаем з Вамі пра цану нашага збаўлення, сучаснае камерцыйнае мысленне і тарыф для сувязі з Хрыстом. Даведаемся аб заступніку студэнтаў і аб тым, што спытаюць на Страшным судзе.*

*Наперад з Богам!*


*Ангеліна Пакачайла*

# Прапусціць свае думкі і ўчынкі праз сіта выгады

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ:**
***"Вы куплены дарагой цаною; не станавіцеся нявольнікамі людзей" (1 Кар 7, 23).***

За збаўленне кожнага з нас Бог заплаціў высокую цану крывёю свайго Сына. З рабства граху мы вызваляемся ў Езусе Хрысце. Калі мы дагаджаем іншым людзям і робім нешта супрацьзаконнае, то супярэчым Божай волі і становімся рабамі людзей.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА:**
***каб быў ліквідаваны гандаль людзьмі, сучасная форма рабства***

Сёння часта эксплуатуюцца цела і праца чалавека. З гэтай прычыны пашыраецца прастытуцыя, прымусовая праца, гандаль органамі. Бог глыбока смуткуе, бачачы на зямлі прыгнёт і несправядлівасць. Молімся ў інтэнцыі ліквідацыі гэтых жудасных з'яў рэчаіснасці.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: гандаль**

Няма такога перыяду ў гісторыі, калі гандаль не аказваў уплыву на грамадскае жыццё. Ён узнік яшчэ ў каменным веку у сувязі з падзелам працы і абменам лішкамі вырабляемых прадуктаў. Паступова паміж людзьмі наладзіліся таварна-грашовыя адносіны – і панеслася... Сёння гандаль займае важнае месца ў жыцці кожнага чалавека: трэба апрануцца, абуцца, паесці, дзесьці і неяк жыць. Сумна, калі чалавечае існаванне нагадвае бег вавёркі ў коле: здабыць грошы – набыць нешта, і наадварот. За шалупіннем матэрыяльных даброт хаваецца штосьці больш важнае.

**МЭТА МЕСЯЦА: прапусціць свае думкі і ўчынкі праз сіта выгады**

Мысленне сучасных людзей часта прасякнута выгадай: "а што мне за гэта будзе?", "калі я табе дапамагу, дык і ты мне будзь ласкавы" і інш. З-за гэтага ў свядомасці чалавека сціраецца разуменне бескарыслівасці, велікадушнасці, сардэчнасці. Асоба перастае аддаваць – і толькі патрабуе сама.

Час прапусціць свае думкі і ўчынкі праз сіта выгады. Мажліва, чорнае зерне паніжае якасць добрых учынкаў?

**СПРАВА МЕСЯЦА: зрабіць дабро для людзей, не таргуючыся**

Хтосьці прыгожа сказаў: "Бог не спытае, які ў цябе быў дом, Ён спытае, колькі ў гэтым доме пабывала ўдзячных табе людзей; не спытае, якая ў цябе была машына, але колькіх людзей ты падвёз; не спытае і пра колькасць сяброў, але пра тое, колькі людзей цябе лічылі сваім сябрам; не спытае, колькі ў цябе было адзення, але колькі вопраткі ты аддаў тым, хто мае ў ёй патрэбу; не спытае Ён і аб тым, колькі ў цябе было грошай, але аб тым, хто кім валодаў: ты – імі або яны – табой".

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Тарыф Езуса", Rema-X**

Гурт выконвае песню аб стартавым пакеце, "які самы выгадны і лепшы на планеце". За сувязь з Хрыстом не належыць плаціць: "паколькі за цябе ўжо паспелі заплаціць". "Табе не патрэбен тэлефон, каб пазваніць; усё, што трэба ад цябе – гэта гаварыць".

**КНІГА МЕСЯЦА:**
***"Той, хто разрывае аковы", Ніл Андэрсан***




Кожны дзень – гэта барацьба. Існуе шмат рэчаў, якія перашкаджаюць нам быць тымі, кім мы з'яўляемся на самой справе. Штодня мы абяцаем Богу стаць лепшымі, але нічога не змяняецца. Гатовы да перамен?

Прапаную Вашай увазе моладзевае выданне, якое дапаможа вызваліцца ад жудасных звычак і глыбокіх расчараванняў. Памятайце, кожны з нас можа разарваць аковы і быць свабодным у Хрысце.

**АСОБА МЕСЯЦА:**
***святы Ян з Кентаў***



Нарадзіўся Ян 24 чэрвеня 1390 года ў Кентах (Польшча). Ва ўзросце 23-х гадоў паступіў у Кракаўскую акадэмію на аддзяленне філасофіі. Скончыў яе ў 1418 годзе са ступенню магістра. Хутчэй за ўсё, у гэты ж час ён падрыхтаваўся да прыняцця святарскага пасвячэння, якое атрымаў у санктуарыі айцоў рэдэмптарыстаў у Тухаве.

На працягу васьмі гадоў кіраваў школай пры кляштары ў горадзе Мехаве. Пазней – выкладаў у Кракаўскай акадэміі тэалогію. У далейшым атрымаў ступень доктара багаслоўскіх навук.

Вёў сціплы вобраз жыцця. Ахвотна дапамагаў бедным студэнтам, раздаючы ім заробленыя грошы. Быў таксама вядомы сваёй праўдзівасцю і пазбяганнем абгавораў. Жабракоў сустракаў словамі: "Хрыстос прыходзіць", і заўсёды саступаў ім сваё месца. Здзейсніў паломніцтва ў Ерузалем, і некалькі разоў пешшу хадзіў у Рым.

Памёр 24 снежня 1473 года, акружаны ўсеагульнай павагай, любоўю і гонарам. Пахаваны ў касцёле святой Ганны ў Кракаве. Беатыфікаваны папам Інакенціем XI у 1680 годзе. Кананізаваны ў 1767 годзе папам Клементам XIII. З'яўляецца заступнікам Кракаўскай архідыяцэзіі, а таксама выкладчыкаў і студэнтаў.

**Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў кастрычніку?**

*Св. Тэрэза (1 кастрычніка), св. Францішак (4 кастрычніка), св. Ігар (5 кастрычніка), св. Пелагея (8 кастрычніка), св. Эдуард (13 кастрычніка), св. Дамінік (14 кастрычніка), св. Пётр (18 кастрычніка), св. Ян (20 кастрычніка), св. Уршуля (21 кастрычніка), св. Сабіна (27 кастрычніка), св. Альфонс (31 кастрычніка).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце на паштовую скрыню рэдакцыі або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*





*Кс. Кірыл Бардонаў*

## Ці можна прымаць святую Камунію тры разы за суткі?

*Святую Камунію за адны суткі вернікам можна прымаць не больш за два разы. Пра гэта сказана ў каноне 917 "Кодэкса канінічнага права" 1983 года. У згаданым каноне ўжываецца тэрмін "дзень", які адпавядае прынятым у нашай мове "суткам", што пачынаюцца апоўначы і маюць 24 гадзіны (канон 202). Таму прымаць Камунію тройчы за суткі нельга.*

*Пры першым і другім прыняцці павінны быць выкананы ўсе ўмовы, звязаныя са святой Камуніяй: не мець цяжкага граху, не менш за гадзіну нічога не есці і не піць, апрача вады і лекаў (эўхарыстычны пост не датычыць цяжкахворых, састарэлых асоб і тых, хто імі апекуецца, а таксама святароў, якія цэлебруюць другую і трэцюю Імшу за дзень).*

*Першы раз за суткі Камунію можна прыняць нават па-за Імшой, калі на гэта ёсць важныя прычыны, а другі раз – толькі ўдзельнічаючы ў Імшы. Асобам, жыццё якіх пастаянна знаходзіцца пад пагрозай, настойліва рэкамендуецца яшчэ раз прыняць святую Камунію, нават калі яны ўжо прымалі ў той самы дзень.*

*Само па сабе множанне колькасці разоў прыняцця Камуніі не мае ніякага духоўнага плёну, наадварот, можа сведчыць пра павярхоўнае стаўленне да прыняцця Цела (і Крыві) Хрыста. Нягледзячы на тое, колькі разоў за дзень мы прымаем Камунію, мы прымаем усяго Хрыста.*

***паводле catholicnews.by***




# У Слоніме адбыўся XI турнір па міні-футболе памяці св. Яна Паўла II

У гэтым годзе спартыўнае мерапрыемства сабрала 16 каманд з усёй Беларусі. Парафія Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў чарговы раз прымала ўсіх удзельнікаў турніру. Перад спаборніцтвамі адбылася святая Імша, якую цэлебраваў кс. Віталь Юркевіч, гвардыян айцоў капуцынаў у Слоніме, які прысвяціў пропаведзь тэматыцы радасці ў жыцці чалавека.

У матчы за 3-е месца, у якім гулялі каманды парафіі св. Юзафа з Маладзечна і "Гродна-Аўгустовак", у выніку пенальці перамогу з лікам 5:4 атрымала каманда з Маладзечна.

У фінальнай гульні, якая стала ўпрыгожаннем усяго турніру, каманда "Гродна-Паўднёвы" з лікам 2:1 перамагла каманду "Гродна-Дзевятоўка".











# Дарагія маладыя Чытачы!



*Другі восеньскі месяц – часта халодны, дажджлівы і пахмурны кастрычнік, заўсёды трохі сагрэты сваім рэлігійным зместам, бо гэта ружанцовы месяц. Усведамленне часу малітвы на ружанцы, напрыклад, вячэрняя пара, калі ўся сям'я збіраецца дома, пасля школы, працы, не аднаго чалавека напаўняе радасцю, чаканай радасцю размовы з Богам, з найлепшым Сябрам!*

*Малітва – гэта размова з Усемагутным, гэта нітачка, якая злучае чалавека са Стварыцелем. Трэба навучыцца маліцца. Чалавек удасканальвае сваю форму малітвы на працягу ўсяго жыцця.*

*Вы, маладыя Сябры, ужо будучы дзецьмі ведаеце мэту, сэнс і спецыфіку гэтага непаўторнага дыялогу з Богам. Нікога з Вас напэўна не здзівіць такое сцвярджэнне, што дзяцінства і маладосць з'яўляюцца найлепшым часам, каб вучыцца маліцца. Мы часта адчуваем неабходнасць малітвы.*

*Ружанец – вельмі простая малітва, якая адначасова заключае ў сабе шмат зместу. Божая Маці заахвочвае да яе падчас аб'яўленняў у Лурдзе, Фаціме ці ў Ля Салет. Дзякуючы ружанцовай малітве мы можам разам з Езусам і Марыяй удзельнічаць у іх радасных і смутных хвілінах жыцця.*

*Беззаганная просіць нас, каб мы злучалі кожную хвіліну нашага жыцця з жыццём Яе і Сына – гэта будзе прыпадабняць нас да Езуса. Для нас вельмі важны непасрэдны дыялог з Богам і пазнанне малітоўнай моцы. Каб добра разумець змест ружанцовых таямніц, трэба імкнуцца паглыбляць знаёмства са Святым Пісаннем, з жыццём Марыі і Езуса, трэба ўсведамляць, што яно неразрыўна злучана з ружанцовай малітвай. Падчас пазнавання радасных, светлых, балесных і хвалебных хвілін з жыцця Езуса і Марыі можна пастарацца злучыць іх з аналагічнымі момантамі свайго жыцця і жыцця сваіх блізкіх. Аналізуючы розныя жыццёвыя сітуацыі, мы дойдзем да высновы, што ў кожнага чалавека ёсць розныя хвіліны, так як у зямным жыцці Хрыста.*



# Ад шчырага сэрца

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл для далейшага служэння, шчодрай Божай дапамогі і ажыццяўлення душпастарскіх планаў. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі і ўзмацняе ў выкананні нялёгкага святарскага служэння, а св. Заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым алтаром. Няхай Святы Дух атуляе сваім святлом кожны дзень Вашага святарскага служэння, Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Яго Маці прытуляе Вас да свайго сэрца. Дзякуем Вам за духоўную апеку, клопат аб нашай святыні і ўвагу да кожнага верніка нашай парафіі, за навуку, шчырую малітву і цярплівасць.

*З малітвай і павагай парафіяне з Рандзілаўшчыны*

Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя на доўгія гады, поспехаў і нястомнасці ў душпастарскай паслузе, штодзённай радасці, добразычлівасці ад людзей навокал, шчасця і душэўнага супакою. Няхай здзяйсняецца ўсё задуманае і рэалізуюцца ўсе планы. Няхай усемагутны Бог нястомна адорвае Вас сваімі ласкамі і бласлаўленнем.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Міжэрычаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юзафу Багдзевічу з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасных і спакойных дзён у Божай ласцы, а таксама духоўнай моцы, вельмі патрэбнай у няпростым святарскім служэнні. Няхай Божая Маці заўсёды будзе Вашай заступніцай. Мы шчыра дзякуем Вам за ахвярную працу, шчырыя словы, добрыя справы і парады. Беражы Вас Бог!

*З удзячнасцю і павагай вернікі з пар. св. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

Шаноўнай Сястры Ядзвізе Мяцеліца з нагоды надыходзячых Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены дабрынёй, радасцю, зычлівасцю, усмешкамі і Божым бласлаўленнем, а побач няхай заўсёды будуць надзейныя сябры. Няхай св. Заступнік ахінае Вас сваёй апекай і вядзе па жыццёвай дарозе, а Найсвяцейшая Маці няхай атуляе сваёй мацярынскай любоўю і супакойвае ўсе трывогі і боль. Шчасці Божа!

*Вернікі з пар. св. Казіміра ў Путрышках*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Федуку з нагоды Дня нараджэння жадаем усіх Божых ласкаў, натхнення Святога Духа і апекі Маці Божай на святарскім шляху. Дзякуем за Вашу працу у нашым касцёле.

*Парафіяне з Ражанкі*

Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усяго самага найлепшага. Няхай здароўе будзе моцным, радасць – штодзённай, любоў у сэрцы – бязмежнай, сілы не слабеюць, а ў душы заўсёды жыве супакой. Няхай св. Заступнік нястомна чувае над Вамі, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай, Дух Святы спасылае на Вас свае дары, а добры Бог штодзённа бласлаўляе. Шчасці Божа!

*З памяцццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Лядска*

Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем патрэбных Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, нязгаснага запалу і энтузіязму ў працы з дзецьмі і моладдзю. Няхай Ваша святарскае сэрца заўсёды будзе напоўнена любоўю да Бога і бліжняга, а Маці Божая Вастрабрамская і Ваш св. Заступнік няхай нястомна чуваюць над Вамі і вядуць Вас да святасці.

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з Аўгустоўка*

Паважанаму Айцу Аляксандру Махначу з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, моцы Духа Святога, апекі Маці Божай і св. Заступніка.

Мы ўдзячныя Пану Богу за Яго ласку ўчыніць нас Вашымі вучнямі. На працягу сямі гадоў Вы нястомна і радасна вялі нас на шляху ўзрастання ў веры праз навучанне Бібліі, духоўныя практыкі. Шчыра дзякуем Вам, наш добры пастыр, за навуку і набожнасць, за Ваш дар святла, мудрасці і цярпення.

Няхай здароўе, энергія і Ваша непаўторная, як промень сонейка, усмешка спадарожнічаюць Вам, прыносяць радасць і задавальненне на службе Богу і людзям у новай парафіі.

*З малітвай і любоўю Біблійнае кола са Шчучына*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш; Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;** Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,**
ЛП 02330/39 от 27.03.2014г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5807; тыраж 6600; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная